ВЫДАЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ У ЗША. РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ.

# БЕЛАРУС

BYELARUS — WHITERUTHENIAN (BYELORUSSIAN) NEWSPAPER

BIELARUS 401 ATLANTIC AVE. BROOKLYN 17 NEW YORK, N. Y.

ГОД IX. № 70 | 30 Верасьня 1958 | NEW YORK, N. Y., U. S. A. | September 30, 1958 | Vol. IX. № 70

# Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі

Сёлета, 31-га жнівеня й 1-га верасьня, Беларусы, жыхары ЗША й Канады, зьехаліся на чародную, ужо трэйцюю сустрэчу. Калі першая сустрэча ў 1954 г. была пераважна экскурсійнага характару з мэтай наведаць вадаспад Ніягару, дык другая, у 1956 г. ў Таронта, і трэйцяя, сёлета ў Нью Ёрку, мелі сэнс нацыянальна-палітычны. Гэтыя сустрэчы ўваходзяць у традыцыю, і з пэўнасьцяй можна сказаць, што не пазьней як за два гады адбудзецца сустрэча чацьвёртая.

Важнасьць і нацыянальна-арганізацыйная карысьць сустрэчаў паказальная й бясспрэчная. Яны становяць паважны чыньнік у збольшваньні нацыянальнага патэнцыялу на эміграцыі, уздымаюць энэргію й бадзёрасьць, пабуджаюць да арганізаванае працы, узмацняюць станоўкасьць у сыноў і дачок Беларусі змагацца за волю свае пад'ярэмнае бацькаўшчыны.

Прыехалі Беларусы блізу з усіх большых месцаў пасяленьня: з Амэрыкі — зь Нью Ёрку, Клійленду, Чыкага, Дэтроиту, Саўт-Рывэру - Нью Браньсьвіку, Стэмфарду, Спрынгфілду, Вікану, Нью-Джэрзы; з Канады, не зважаючы на большыя клопаты пераезду зь іншага гаспадарства, — з Таронта, Монтрэалю, ды іншых мясцовасьцяў. Удзел у сустрэчы ўзялі й колькі нашых ранейшых эмігрантаў.

Сёлетняя сустрэча мела тры розныя мамэнты: удзел у высьвячэньні праваслаўнага Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага (у Брукліне на Атлянтык Эвэню, 401); прыватнае наведаньне знаёмых, а таксама вечарыны ньюёркаўскае моладзі ды азнаямленьне зь Нью Ёркам; галоўным-жа мамэнтам быў мітынг з канцэртам у нядзелю ўвечары, 1-га верасьня.

Пасьля высьвячэньня Сабору й Божае Службы удзельнікі й госьці зыйшліся на агульны абед-бяседу, зладжаную адміністрацыйным камітэтам набытага Дому, ці Камітэтам Грамадзкага Цэнтру, як ён запраўды завецца. У бясэдных прамовах ды прывітаньнях выказалася запраўдная ўцеха з факту прыдбаньня собскага рэлігійна-грамадзкага прыпынішча.

Мітынг адчыніў старшыня сэктару Рады БНР К. Мярляк даючы досыць часу на беспасярэднія ды пісьмовыя прывітаньні. А гэтых прывітаньняў ды спачуваньняў з жаданьнем волі для Беларусі як ад дзяржаўных мужоў, так і грамадзкіх ды іншанацыянальных прадстаўнікоў Беларусы здабываюць штораз больш. Віталі сход: губэрнатар штату Нью Ёрку Э. Гарыман, мэр Нью Ёрку Р. Вагнэр, сэнатар Джэйкаб Джэвіц, кангрэсмэн Кэнэт Б. Кітынг.

Ад іншых нацыянальнасьцяў беспасярэдня выступалі з прывітаньнямі: ад Украінскае Нацыянальнае Рады сп. М. Васкабійнік, ад Польскага Народнага Задзіночаньня сп. Г. Лівач ды пісьмова ад Украінскага Кангрэсавага Камітэту сп. Д. Галычын, ад Грузінскага Задзіночаньня ў Амэрыцы сп. Дж. Кобы, ад Вярхоўнага Казацкага Прадстаўніцтва сп. В. Глазкоў.



**На агульным абедзе удзельнікаў Сустрэчы у залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру. Старшыня К-ту БГЦ Я. Ніхаёнак вітае гасьцей.**

Фото Я. Пазьняка

Мітынг праходзіў пад лёзунгам пратэсту супраць паняволеньня Беларусі чырвонаю Масквой. Даклад на прынагодную тэму „Беларусь — фікцыя Масквы" прачытаў сп. А. Адамовіч. У дакладзе былі адзначаныя галоўныя мамэнты тварэньня БССР, ды насьветленыя тыя прычыны й акалічнасьці ў сувязі зь дзейнасьцяй Рады БНР, якія змушалі Маскву тварыць фікцыю беларускага гаспадарства ў выглядзе БССР, якая ані тэрытарыяльна, ані нутраным ладам ня мае ніякага падабенства да незалежнае дзяржавы.

Ад імя ўдзельнікаў Трэйцяе Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі былі высланыя прывітальныя тэлеграмы: Галаве БАПЦ архіепіскапу Сергію, Прэзыдэнту ЗША Д. Айзэнгаўэру, Прэзыдэнту Рады БНР інж. М. Абрамчыку, Прэм'еру Канады Дж. Дыфэнбэйкэру, губэрнатару штату Нью Ёрк Э. Гарыману, мэру места Нью Ёрк Р. Вагнэру, губэрнатару штату Нью Джэрзы Р. Майнэру.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

Мы, Беларусы Задзіночаных Штатаў Амэрыкі й Канады, зьехаўшыся на сваю традыцыйную штодвухгадовую сустрэчу, станоўка заяўляем пра сваю поўную салідарнасьць з цэлым беларускім народам у змаганьні за аднаўленьне вольнай і сувэрэннай дзяржавы — Беларускае Народнае Рэспублікі, што была абвешчаная Актам 25 Сакавіка 1918 году, ды адначасна выказваем пратэст супраць маскоўскіх калянізатараў, што прыкрываючыся фікцыяй сувэрэннае дзяржавы ў форме Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі, паняволілі беларускі народ, пазбавілі яго ўсіх правоў і дэмакратычных свабодаў ды вядуць у дачыненьні да Беларусі народагубную палітыку.

Мы заяўляем вольнаму сьвету і ўсім ягоным адказным кіраўнікам, што:

— „Савецкая імпэрыя — турма народаў і расаў", як добра сьцьвярджае Камісія Законнасьці Амэрыканскага Сэнату.

— Беларускі народ у Савецкім Саюзе панявольваецца, перасьледуецца ды сьведама выгубляецца маскоўскім бальшавізмам.

— Устанаўляючы сваю ўладу на Беларусі брутальнаю сілаю, маскоўскія бальшавікі выгубілі дзесяткі тысячаў лепшых прадстаўнікоў беларускага народу, абвесьціўшы паход супраць „нацдэмаў" — гэта значыць супраць беларускае нацыянальнае дэмакратычнае інтэлігенцыі — ды міліёны сялянаў і работнікаў, што супрацьставіліся бальшавіцкай каляніяльнай сыстэме.

— Цяпер у мэтах недапушчэньня да ўзросту новых кадраў нацыянальнае інтэлігенцыі бальшавікі плянава разганяюць беларускую моладзь на Сібір, Казахстан, на распрацоўваньне цаліны ды на розныя катаржальныя працы па далёкіх ускраінах чырвонае імпэрыі, агаляючы Беларусь ад працоўнае сілы.

— Факт, што на Беларусі заміж натуральнага прыросту адбываецца сталы спад колькасьці жыхарства, яскрава сьветчыць пра народагубную калянізацыйную палітыку Масквы.

— Галоўныя кіраўнічыя становішчы дзяржаўных органаў БССР займаюць насланьнікі Расеі, і таму марыянэткавы ўрад БССР не рэпрэзэнтуе волі беларускага народу.

— Беларускі этнаграфічны прастор з жыхарствам каля 20-цёх міліёнаў стаўся ў руках Савецкае Расеі разьменнай палітычнай манэтай, беларускі народ сілай падзелены на часткі, а сяньняшняя БССР, што рыхтуецца адзначыць 1. 1. 1959 г. саракавыя угодкі свае „сувэрэннасьці" — гэта звычайная калёнія Масквы.

— Беларусь, у сувязі із сваім геапалітычным палажэньнем, будучы найперш і найбольш датклівым месцам савецкае імпэрыі ў выпадку збройнага канфлікту СССР з Захадам, з эканамічнага гледзішча ператвораная ў рэзэрвуар сыравіны, плянава занядбоўваецца й выпустошваецца з матар'яльных і людзкіх рэсурсаў, што толькі груба прыкрываецца кантраляванай акупантам хвальшывай афіцыйнай статыстыкай і прапагандай нагул.

— Каб пазбавіць беларускі народ крыніцаў нацыянальнае сьведамасьці й патэнцыялу палітычнага адраджэньня, на працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў праводзіцца гвалтоўная русыфікацыя й зьнішчэньне ды фальсыфікацыя ўсяго, што зьвязана з тысячагодняй гісторыяй і культурай беларускага народу.

— Беларускі народ на Бацькаўшчыне й па ўсіх іншых краёх сьвету змагаецца за сваю дэмакратычную сувэрэнную дзяржаву — Беларускую Народную Рэспубліку, і прадстаўніку гэтае сувэрэннасьці — Ураду БНР на эміграцыі — што змагаецца за волю й незалежнасьць беларускага народу, выказваем поўны давер і падтрыманьне.

— У вагульным ходаньні за волю беларускага народу мы уздымаем свой голас пратэсту супраць найгоршага ведамага ў гісторыі гвалту над свабодай і правам чалавека й цэлага народу.

Аднагалосна прынята на Трэйцяй Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Нью Ёрку 31 жнівеня 1958 году.

## ПРЭЗЫДЭНТАВА ПАДЗЯКА ЗА ПРЫВІТАНЬНЕ

У вадказ на прывітаньне, пасланае ад 3-й гадавой сустрэчы Беларусаў Амэрыкі й Канады Прэзыдэнту ЗША сп. Айзэнгаўэру, зь Белага Дому прыйшоў наступны ліст, падпісаны Спэцыяльным Дараднікам Прэзыдэнта, Джэральдам Д. Морганам:

Дзякуй за Вашую ветлівую тэлеграму да Прэзыдэнта ад 1 верасьня. Сьцьвярджаючы атрыманьне яе, я магу запэўніць Вас у тым, што ён шчыра цэніць слаўнае прырачэньне падтрыманьня, а таксама выразы прыязнасьці, выказаныя ў гэтым чулым пасланьні Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

# ВЫСЬВЯЧАНЬНЕ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ БАПЦ у НЬЮ ЕРКУ

**Назаўсёды застанецца ў памяці Беларусаў Амэрыкі й Канады дзень 31 жніўня 1958 г., дзень высьвячаньня Катэдральнага Сабору Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Нью Ёрку.**

Высьвячаньне супала з III-ім зьездам Беларусаў Амэрыкі й Канады, і гэтыя дзьве падзеі так добра спрыялі адна аднэй.

Нельга тут ня ўспомніць і тых дзён, у якія рыхтавалі ахвярныя людзі царкву й грамадзкі цэнтр да высьвячаньня. Хто бачыў гэтую працу на працягу ўсяго лета гарачага, заахвяраваныя дні вакацыяў і ўсіх сыботаў, той адчувае і разумее вялікую ахвярнасьць і вытрываласьць іх у будаваньні дому малітвы й працы.

Камітэт Беларускага Грамадзкага Цэнтру (раней Камітэт набыцьця Царквы й Беларускага Народнага Дому ў Нью Ёрку) пад кіраўніцтвам сп. Янкі Ніхаёнка выявіў максымум натугі й пры памозе людзей добрае волі выканаў усё канечнае ў дарыхтаваньні будынку да высьвячаньня.

Сп. сп. Б. Данілюк, Пётра Мельяновіч і Янка Чыгіровіч бyдавалі іканастас. Ды ўсяго не пералічыш, працы было шмат і вялася яна даўгі час, дзень у дзень, да высьвячаньня Сабору й Грамадзкага Цэнтру. Кажны, хто выканаў хоць частку гэтае працы, меў напэўна вялікае маральнае задаваленьне.

Ураньні апошняй нядзелі жніўня ўсе сьпяшаліся ў Сабор. Кажны хацеў быць на высьвячаньні яго, а ці мала хто гэтую нагоду перажыў першы раз у жыцьці.

Службу высьвячаньня, а пасьля Літургію, адслужыў Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіепіскап Васіль у суслужэньні мітрафорных пратаерэяў айцоў Хведара Данілюка й Сьцяпана Войтанкі ды айца Міхаіла Мацукевіча з Канады. У часе Сьв. Літургіі Уладыка Васіль надаў сан Пратаерэя айцу Міхаілу. Увесь час напераменку пялі два хоры, адзін з Кліўленду пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага й другі ньюёркаўскі пад кіраўніцтвам сп. М. Тулейкі. Усё праходзіла вельмі гарманійна, быццам так дакладна раней узрыхтавана. Адчуваўся велічны настрой малітвы — удзячнасьці Богу сярод усіх маленьнікаў, што ў канцы службы яшчэ больш выявілася ў натхненным супольным адсьпяваньні „Магутны Божа". Прыгожую казань меў пратаерэй айцец Міхаіл.

Пасьля Божае Службы ўсе зышлі ўніз, у прыгожа прыбраную залю на супольны абед, што арганізаваў Камітэт Грамадзкага Цэнтру пры ахвярнай памозе паважанага сп. А. Вішнеўскага й нашых жанчынаў і дзяўчат прыхаджанак.

Радасную ўрачыстасьць высьвячаньня Сабору й Грамадзкага Цэнтру ўшанавалі сваім прыбыцьцём высока дастойныя госьці: Архіепіскап Афрыканскае Праваслаўнае Царквы Эрнэст, Архіепіскап Індыйскае Царквы Пэлей, старшыня Індыйскіх Хрысьціянскіх Цэркваў др. Рамкрышна Модак і Епіскап Нью Ёрку Уілкі.

Пры добрым пасілку, супольнай бясёдзе, прыгожых прамовах, прайшоў апошні радасны й шчасьлівы мамэнт дня высьвячаньня Сабору БАПЦ і Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Нью Ёрку.

*М. Тулейка*

# ЗВАРОТ

**БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ, ЗАРГАНІЗАВАНЫХ У БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІМ ЗАДЗІНОЧАНЬНІ Й ЗГУРТАВАНЬНІ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ, ДА СВАІХ СУРОДЗІЧАЎ НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ И ДА УСІХ БЕЛАРУСАЎ, ШТО ВЫВЕЗЕНЫЯ И ВЫГНАНЫЯ БАЛЬШАВІКАМІ З РОДНАГА КРАЮ.**

Браты й Сёстры на Бацькаўшчыне!

Беларусы Задзіночаных Штатаў Амэрыкі й Канады, зьехаўшыся 31-га жнівеня 1958 году ў Нью Ёрк на Трэйцюю штодвухгадовую сустрэчу Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, перасылаюць Вам гарачае прывітаньне й станоўкае запэўненьне ў вернасьці справе вызваленьня нашага краю ад чужое нявол і й адбудовы вольнае Беларусі. Верныя ідэалам Беларускае Народнае Рэспублікі, што была абвешчаная 25 сакавіка 1918 году вольнай дзяржавай на тэрыторыі ўсяе этнаграфічнае Беларусі, мы бязупынна пашыраем праўду пра паняволеную бацькаўшчыну сярод амэрыканскага й канадыйскага народаў ды ўзгадоўваем сваіх дзяцей у духу любові да роднага краю й аддаnасьці справе ягонага вызваленьня спад бальшавіцкае няволі.

Беларускі Народзе! Мы, Твае сыны й дочкі, закінутыя Божай воляй на Паўночна-Амэрыканскі кантынэнт, верна захоўваем сваю мову, веру, культуру й традыцыі. Мы ўважліва й напружана сочым усё, што дзеецца цяпер на беларускіх землях, балючa перажываем за крыўды й паняверку, якія чыняць пaнявольнікі на нашай бацькаўшчыне. Мы выкарыстоўваем усе магчымасьці — а іх мы маем шмат у дэмакратычных краёх нашага цяперашняга пражываньня — каб здабыць як мага больш зразуменьня й прыхільнасьці з боку амэрыканскага й канадыйскага народаў да справы вызваленьня Беларусі. Мы нязломна верым, што недалёкі той час, калі нашая бацькаўшчына станецца вольным і свабодным краем. За дасягненьне гэтага мы, Беларусы, Задзіночаных Штатаў Амэрыкі й Канады, аддамо ўсе свае сілы. Мы заклікаем усіх суродзічаў да наважнасьці й вытрываласьці ў вялікай працы на карысьць Беларусі — за здабыцьцё волі й аднаўленьня свабоднага ладу жыцьця.

Аднагалосна прыняты на Трэйцяй Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Нью Ёрку 31 жнівена 1958 году.

---

**ПРЭЗЫДЫЮМ І САКРАТАРЫЯТ РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

**з глыбокім жалем паведамляюць, што 14 жніўня сёл. пасьля доўгай і цяжкай хваробы ў Чыкага адыйшоў у вечнасьць сябра Рады БНР**

## АДВАРДЫ БУДЗЬКА

і выказваюць найглыбейшыя спачуваньні прыбітай горам Спадарыні й Сям'і Нябожчыка.

**Сьв. п. Адварды Будзька нарадзіўся 22 сакавіка 1882 г. ў м-ку Будславе на Вялейшчыне й ад малады х год стаўся адным з актыўных беларускіх дзеячоў-адраджэнцаў. Ён арганізатар беларускай калёніі ў Рызе ў 1901 г., дзейны супрацоўнік „Нашай Долі" й „Нашай Нівы" у 1906-1915 гг., рэдактар-выдавец часапісу „Сьветач" ў Петраградзе у 1916 г., удзельнік першага зьезду беларускіх дзеячоў 25 сакавіка 1917 г., Усебеларускага Кангрэсу ў сьнежні 1917 г., арганізатар беларускай гімназіі ў Будславе ў 1918 г., кіраўнік настаўніцкіх курсаў у Дзьвінску ў 1921-1922 гг., выдатны каапэратыўны працаўнік, ды сябра шмат якіх беларускіх арганізацыяў. У ягонай асобе пакінуў гэты сьвет апошні з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху ў XX веку, што дажылі да нашых дзён. Пахаваны на магілках сьв. Вайцеха ў Чыкага.**

**ПРЭЗЫДЫЮМ І САКРАТАРЫЯТ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ**

---

# ВЕСТКІ ПРА СУРОДЗІЧАЎ

**Ад Рэдакцыі:** Надовечы нам надарылася нагода гутарыць з асобай, што сёлета прыехала сюды з Польшчы. Ніжэй падаём весткі, якія нам удалося атрымаць пра Беларусаў у Польшчы.

*БЕЛАРУСЫ НА „ЗЕМЯХ ОДЗЫСКАНЫХ":*

З БССР паглядаюць на Польшчу (зразумела тых, хто меўбы шансы перабрацца ў Польшчу, калі-б ня было фармальных цяжкасьцяў), менш-больш, як з Польшчы глядзіцца на Амэрыку. Гэта значыць, што розьніца жыцьця на Беларусі і ў Польшчы вычуваецца вельмі выразна на карысьць Польшчы. А галоўнае, далей ад Сыбіры на захад. Гэта не абазначае, аднак, што Беларусам у Польшчы лёгка. Дармо, што бальшыня зь іх паўладжваліся неяк, чуюцца яны не на сваёй зямлі, напэўна, пад пагрозай, што рана ці позна калішнія гаспадары могуць вярнуцца. Гэтае адчуваньне, роджанае палітычнымі меркаваньнямі, узмацняецца, пэўна-ж прыродным жаданьнем вярнуцца да сябе на бацькаўшчыну, толькі не на цяперашнюю, паняволеную.

Наплыў Беларусаў у Польшчу апошнімі часамі спыніўся, хоць паасобныя выпадкі яшчэ здараюцца. У Варшаве на чыгуначнай станцыі ёсьць навет адмысловы пункт „Для рэпатрыянтаў". Часчасам на гэтым „пункце" зьяўляюцца невялікія групы людзеў, у якіх варшавяне адразу-ж пазнаюць (з вопраткі) „рэпатрыянтаў з-за Буга". Чалавек зь дзесяць, абдзертых і худых, наш сьветка бачыў на „рэпатрыяцыйным пункце" у Варшаве ў ліпені сёлета. Гутарыць да іх не падходзіў але чуў, што гаварылі міжсобку пабеларуску.

Выехаць зь Беларусі ў Польшчу — справа нялёгкая, але магчымая. Адзін Беларус, каб вырвацца з БССР, паехаў у Менск „падмазваць". Запрасіў адпаведнага ўрадоўца зь міністэрства на абед (гэны згадзіўся, дадаючы толькі: „Пачакайце часінку — зараз прыйдзе мая жонка..."), а іншую фармальнасьць абладзіў у тым-жа Менску „пры дапамозе" аўтаматычнага пяра. Хабарніцтва — дзе ні ступні, і ў БССР і ў Польшчы. (Між іншага: маёр польскае арміі на пытаньне, ці ён мае надзею стацца калі-небудзь палкоўнікам, адказаў: „Надзею на палкоўніка маю, але на сваё аўта — ніякае...").

Перабрацца зь Беларусі ў Польшчу напэўна шмат каму хочацца. Бываюць, аднак, выпадкі й тут „вяртаньня на радзіму". Спрычыняюцца яны тым, што ў Беларусаў з новым асяродзьдзем паўстаюць канфлікты й расчараваньні на нацыянальным і рэлігійным грунце. Палякі часта бяруць Беларусаў за Расейцаў (праваслаўных, і наагул тых, што пабеларуску гутараць) і ставяцца да іх гэтак як і да Расейцаў, зь нехацяй, непрыязьняй а часта й зь ненавісьцяй. Гэта прысьпішае палянізацыю ў шмат якіх выпадках, у іншых — трымае Беларусаў разам, радзей — змушае варочацца назад.

У польска-беларускіх дачыненьнях, з гледзішча на геапалітычнае палажэньне абодвух краёў, заўсёды вымагалася максымум палітычнага розуму. А ў Палякоў ніколі навет і мінімуму ня было. Ненавісьць у іх часта большая за глузд — на шкоду і ім, і нам. Польскія палітычныя колы на захадзе мусілі-б зразумець *рэальнасьць* палажэньня і ўплываць на свой народ на бацькаўшчыне, што Беларус — не Маскаль, што ў інтарэсах польскае вызвольнае палітыкі вытлумачваць гэту розьніцу.

Між іншага, у дачыненьні да Беларусаў Палякі часта парадаксальныя: на Захадзе польская прэса штурмуе заходнюю палітычную думку аб крыўдах „праваслаўных Палякоў на Беларусі"; у Польшчы праваслаўнага Беларуса адразу-ж запісваюць у Расейцы з усімі вынікамі гэтага.

*ПРА ТЫХ, ШТО ВЯРНУЛІСЯ*

Надзвычай характэрна! На Беларусі людзі перакананыя, што ўсе тыя, хто вярнуўся дамоў на „міхайлаўскую візу", чымсьці правініліся на Захадзе й іх выкінулі назад у Савецкі Саюз. Штосьці падобнае да анэкдоту пра цыгана, які выбраў найстрашнейшую форму самагубства—па-

# »МІРАЛЮБНЫЯ« ПАДПАЛЬШЧЫКІ

Яшчэ ня скончылася й нямаведама чым скончыцца завырушэньне на Сярэднім Усходзе, як паўстаў новы палітычны канфлікт у Кітаі ля Фармозы.

Ці Мао-Цэ-Дун загрозіў Хрушчову не ўваходзіць у канфэрэнцыю з заходнімі гаспадарствамі, ці Хрушчоў, пабачыўшы няспрыяльныя абставіны, падгаварыў Мао-Цэ-Дуна стварыць новы канфлікт, ці чырвоны Кітай унезалежняецца ад Масквы, ці ён падпарадкуецца — гэта ня так важна й справы не мяняе. Важней факт, што кітайскі канфлікт становіць адзін із пунктаў таго маскоўскага пляну, па якім дзеюць бальшавікі ў палітыцы.

Новы канфлікт ставіць першнаперш Амэрыку ў цяжкое палажэньне, выклікаючы розную ацэну яго амэрыканскімі палітыкамі. Адмовіцца ад памогі нацыянальнаму Кітаю ў вабароне пагрожаных абтокаў — гэта значыць наблізіць справу разьвязкі долі самое Фармозы ды страціць павагу ў ваччу народаў, што чакаюць дапамогі ад Амэрыкі. Увязацца-ж у вайну зь Кітаем — рэч небясьпечная зь непрадбачанымі абставінамі, якія не разьвяжуць галоўнае праблемы дачыненьняў з чырвоным сьветам, а забяруць шмат ахвяраў ды гаспадарствавае маёмасьці. Зноўжа, Маскве гэта якнайлепш дарэчы. Масква выступіла-б міратворцам, адначасна кіруючы справу гэтак, каб зацягнуць вайну як найдалей. Нездарма некаторыя амэрыканскія вайсковыя заяўляюць, што ўвязаньне Амэрыкі ў вайну зь Кітаем сталася-б катастрофай для Амэрыкі. А ўжо аж залішне лёгка ацаніў гэтую справу былы Дзяржаўны Сакратар Амэрыкі Д. Эчысон, заявіўшы, што яна нявартая жыцьця аднаго амэрыканскага жаўнера. Няўдалы падыход да сучаснага кітайскага канфлікту можа пацягнуць сотні тысячаў людзкіх жыцьцяў ды ў выніку прынесьці шкоду Амэрыцы. Дзеля таго амэрыканскаму ураду вельмі цяжка зрабіць пэўную пастанову. Як відаць, паважная частка амэрыканскага палітычнага й грамадзкага сьвету не ўсьведамляе сабе, што Масква будзе ствараць усьцяж і безупынна новыя канфлікты, штораз горшыя да разьвязаньня й адначасна будзе трубіць аб сваім міралюбсьцьве.

Што чырвоныя валадары баяцца вайны — гэта бясспрэчна. Але яны ўсьцяж шантажуюць і будуць шантажаваць Захад, стараючыся не пераступіць тае мяжы, за якой пачалася-б вайна.

А дзе-ж той „Рубікон"? Выглядае, што Масква бачыць яго задалёка на Захад; заходняму-ж сьвету ён выдаецца на чырвоным баку шмат бліжэй, як у запраўднасьці. Дзеля гэтага Масква з параўнальнаю ўдачаю ўсьцяж шантажуе Захад.

Аднак падпальныя жмуты, што ўсьцяж раськідае Масква, замаскоўваючы іх „міралюбным" галасам, могуць выклікаць пажар вайны нечакана й для самых чырвоных падпальшчыкаў.

---

ехаў у Савецкі Саюз і запісаўся ў калгас... Гэтак, у разуменьні нашага народу, бальшавіцкая імпэрыя можа быць толькі пакараньнем...

Ад Беларусаў у Польшчы ўсюды можна пачуць пра жахлівы выпадак самагубства дзьвюх асобаў, што вярнуліся на Беларусь, пажылі й пераканаліся, куды яны трапілі.

Расказваюць таксама пра сям'ю, што пажыла год на Беларусі, а пасьля была вывезеная кудысьці у Сібір. Выпадкаў звароту ўжо бадай ня бывае. Відаць, не дарма й генэрал Міхайлаў „па хваробе" ў дымісію падаўся, заменены надаўна новым генэралам Вішнеўскім.

*ПАД БАЛЬШАВІКАМІ:*

З Польшчы, дзе жыве больш за мілёен Беларусаў, шмат каму ўдаецца паехаць на савецкую Беларусь у вадведзіны да сваякоў. Гэткім парадкам, у Польшчы можна даведацца пра ўсе навіны з другога боку сталёвае заслоны, г. зн. мяжы паміж СССР і сатэлітамі Весткі зусім не суцяшальныя. Зь лягераў і турмаў, праўда, шмат каго павыпушчалі. Але што з таго, калі цэлы край у галодную турмуператвораны! Часта бываюць выпадкі, пра якія нам ужо раней даводзілася чуць: вернецца чалавек зь Сібіры, паглядзіць на галечу й назад варочаецца. Гэта таксама адзін із спосабаў руйнаваньня народу...

Як калісьці ў 30-х гадох, гэтак і цяпер, на грузавіку — у Менск, адтуль зь мяшком хлеба: і сабе, і перапрадаць крыху.

У часе мадзярскага паўстаньня ў Польшчы шырака гаварылася пра паважныя забурэньні сярод менскага студэнцтва.

*ЭМІГРАЦЫЯ И ЗАХАД*

Шмат дзе ў Польшчы Беларусы слухаюць радыё „Вызваленьне". Тыя, што парасьціданыя па „землях одзысканых" трымаюць лучнасьць зь Беластокам і „Нівай". Пра дзейнасьць беларускае эміграцыі на Захадзе шмат хто нічога ня ведае. Весткі пра нашыя ўдачы, аднак, успрыймаюцца ўсімі Беларусамі з радасьцю і палёгкай.

Характэрныя перакананьні ў Польшчы й на Беларусі ў дачыненьні да Захаду й Амэрыкі. Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў, прыкладам, часта атоесамляецца з Амэрыкай, Захад і Амэрыка — таксама сынонімы. Часта можна пачуць гэткія дакоры ў бок Захаду: „Амэрыка аддала бальшавіком паўночную Карэю", „Амэрыка аддала камуністым Індакітай", „Амэрыка дазволіла Маскве здушыць мадзярскае паўстаньне". Як бачым, на Амэрыку ўскладаюцца ня толькі дакоры за міжнародныя няўдачы заходняга блёку ці паасобных дзяржаваў; у бок Амэрыкі сьціраваныя й спадзяваньні, што яна павінна стаяць на старожы нацыянальнае й міжнароднае справядлівасьці.

# *Зварот Расейцаў да Прэзыдэнта Айзэнгаўэра*

Расейскія эміграцкія арганізацыі сьціравалі да прэзыдэнта Айзэнгаўэра сваю супольную рэзалюцыю. Пералічэньне гэтых арганізацыяў (у ліку 20-цёх) мела за мэту паказаць моц Расейцаў, хоць шмат якія зь іх выяўляюцца толькі ў назове. Калі-б у сьпісе арганізацыяў была й КПСС — ніякага дзіва: аўтары рэзалюцыі выразна сказалі, што ім важней Расея вялікая, хоцьбы й бальшавіцкая, чымся Расея натуральная ў яе нацыянальных межах. Гэта ўжо ведамая рэч, і не канечна было Расейцам паўтараць яе.

Дзівіцца толькі трэба тэй нахабнасьці, зь якой Расейцы, знайшоўшы прытулак у Амэрыцы, жывучы на ейным хлебе, усьцяж кідаюць гэтай-жа Амэрыцы свае пагрозы то „спутнікамі", то расейскім нацыяналізмам, пагрозы, што зводзяцца да аднаго патрабаваньня: не перашкаджайце расейскаму імпэрыялізму, начай мы, Расейцы — усе супольна з бальшавікамі — будзем біцца з вамі з усіх сілоў. Гэткая нахабнасьць не пасступіцца нічым перад нахабнацьцяй Хрушчова.

Пачаўшы ад падзеяў на Сярэднім Усходзе, успамянуўшы аб тым, што расейскія цары памагалі Амэрыцы (бо, бач, ніразу не нападалі на яе), аўтары падыйшлі да самое мэты рэзалюцыі ды вось што пішуць:

„Рускі народ патрыятычны й нацыяналістычны, што й было даведзена на справе ў часе Другой сусьветнай вайны. Пакуль палітыка ЗША мае характар „расчленительный", Рускі народ, не зважаючы на яго нянавісць да камунізму, ня можа верыць ЗША й сілаю рэчы змушаны быў-бы падтрымваць Савецкі Урад, калі-б дайшло да збройнага канфлікту з Захадам.

„Гэткія дзеяньні ЗША, як падтрыманьне сэпаратыстычных групаў эмігрантаў на сваёй тэрыторыі й прапаганда сэпаратызму праз радыё, аплачваная тым-жа Амэрыканскім Урадам, служаць лепшай апорай камуністых унутры СССР.

„Расейскі нацыяналізм — магутная зброя супраць камунізму. Дзеля гэтага пры правільнай палітыцы ЗША лепшым саюзьнікам Амэрыканскага народу супраць камуністых быў-бы Рускі народ".

У канцы прапануецца Прэзыдэнту „раз і навсегда" адмовіцца ад падтрыманьня „сэпаратыстычнае прапаганды".

У рэзалюцыі ня кажацца каго Расейцы маюць за „сэпаратыстых". Пэўна-ж, калі-б Польшча, Вугоршчына ды іншыя сярэдняэўрапэйскія гаспадарствы пабылі пад панаваньнем Расеі колькі дзесяткоў год, дык і іхнае імкненьне да незалежнасьці Расейцы назвалі-б „сэпаратызмам".

Як выявілася „на справе" сіла расейскага нацыяналізму, паказалі ваенныя падзеі ў Другой сусьветнай вайне, калі Немцы за тыдзень захапілі блізу ўсю Беларусь і бязмала ўсю Украіну, ня страўшы супраціву, бо не-расейскім народам ня было за што змагацца; і толькі людажэрная палітыка Гітлера ды дапамога Амэрыкі зь ейнымі саюзьнікамі выратавалі чырвоную армію ад разгрому.

Сьцьвярджаючы ў рэзалюцыі што расейскі нацыяналізм выратаваў бальшавікоў у Другой сусьветнай вайне, Расейцы далей заяўляюць, што „расейскі нацыяналізм — магутная зброя супраць камунізму" але гэта тады, калі Амэрыка не зачэпіць расейскага імпэрыялізму, а пакуль Амэрыка будзе падтрымваць вызвольныя рухі паняволеных народаў, патуль Расейцы будуць памагаць бальшавіком.

Няма тут ані навіны, ані дзіва. Цяперашні маскоўскі бальшавізм базуецца на гэтым „расейскім нацыяналізьме", ці імпэрыялізьме. Здушваньне нацыянальных імкненьняў паняволеных народаў ды шырэньне русыфікацыі добры паказьнік гэтаму. Масква-ж пастаўляе ўрадаўцаў ды розных наглядчыкаў, як у новападбітыя краі так і ў раней паняволеныя. Масавае зьнішчэньне беларускае нацыянальнае інтэлігенцыі, зьнішчэньні й штучны голад на Украіне, сьвежыя яшчэ падзеі ў Вугоршчыне ды Польшчы — вось выяўленьні расейскага нацыяналізму. Але, калі сіла расейскага нацыяналізму выказваецца ў падбоі й здушэньні свабоды меншых народаў, дык у станоўкім змаганьні бальшавізму з вольным сьветам сіла гэтая не зраўнаецца з вызвольнай сілай паняволеных Расеяй народаў. Відаць, самі Расейцы гэта вычуваюць, дык звараючацца да Амэрыкі па дапамогу, павучаючы ды пагражаючы.

А ці-ж Прэзыдэнт не асуджаў дагэтуль „агрэсыўную існасьць камунізму" й не заклікаў расейскі народ да дружбы? Нашто гэтая „дымовая" заслона? Ці-ж бо яна мае задыміць вочы Прэзыдэнту? Хіба-ж не.

Зьмест і стыль рэзалюцыі зусім супадае із зьместам і стылем савецкае нахабнае ілжывае прапаганды — гэта таксама шмат аб чым прамаўляе.

З гледзішча атхланнага пражорлівага расейскага імпэрыялізму дакумэнт гэты характэрны й цікавы — што й казаць!

---

**У ПАРЫСКІМ БЛЁКУ**

**11-га верасьня сёлета ў Нью Ёрку адбыўся сход сэкцыі Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскі Блёк). На парадку дня сходу была справаздача зь дзейнасьці сэкцыі за мінулую кадэнцыю й перавыбары ўправы сэкцыі.**

**Агульную справаздачу з працы сэкцыі даваў др. К. Панькіўскі, справаздачу фінансавую — К. Мярляк і справаздачу сакратарыяту — Г. Гаратуньян.**

**Пасьля справаздачаў адбылася дыскусія. Уступаючай управе быў удзелены абсалютарыюм з падзякай.**

**У новую управу былі абраныя Г. Гаратуньян — за старшыню, сп. М. Васкабійнік — за заступніка старшыні, сп. К. Мярляк — за сакратара, сп. В. Глазкоў — за скарбніка.**

## БЕЛАРУСКАЕ ЦАРКОУНАЕ ЖЫЦЬЦЕ У АУСТРАЛІІ

У Аўстраліі ёсьць колькі прыходаў БАПЦ. У Мэльбурне прыход заіснаваў толькі ад нядаўна. Першая Багаслужба, вельмі ўрачыстая, адбылася 22. 6. Прыбыло да 100 асобаў, не зважаючы на моцную й брудную агітацыю зарубежнікаў. Падтрымалі нас і Украінцы, асабліва сьвятары УАПЦ, зь якіх а. Іван служыў з настаяцелям нашае царквы а. Мадэстам, ад пачатку, а пад канец прыйшоў і а. Барыс із сваім хорам ды малебен адслужылі ўжо супольна. А. Барыс спэцыяльна адслужыў сваю Багаслужбу для Украінцаў, каб прыйсьці яшчэ й да нас, за што ім усім належыцца асаблівая падзяка. Чынам даказалі роднасьць УАПЦ і БАПЦ.

У сваіх казанях, добра зрыхтаваных, усе айцы шмат гаварылі і аб БАПЦ, ейнай гісторыі й заклікалі моцна стаяць пры Ёй, бо Яна моцна стаіць на груньце Беларускае Вызвольнае Справы.

Усе маленьнікі моцна перажылі сваю Багаслужбу. Зьліліся ў адну грамаду — адну беларускую сям'ю. Выразна гэта адчулася пасьля Багаслужбы на супольнай гарбатцы. Пра тое-ж кажуць і стараньні шмат якіх Беларусаў ды Парафіяльнае Управы дзеля дабра свае Царквы — роднае БАПЦ, свайго сьвятара, а архімандрыта Мадэста, які запраўды з найбольшай адданасьцяй узяўся за працу.

Мы, прыхаджане прыходу БАПЦ ў Мэльбурне, шмат пакладаем у ім надзеяў. Зь вялікімі перашкодамі паўставаў наш прыход, але калі пачаў дзеіць, верым, што будзе дзеіць добра, на карысьць нас, як людзей, і нашай Беларускай Справы.

Дапаможа яму Божа!

**Прыхаджанін.**

## Кангрэсавая брашура пра Беларусь

У мінулым месяцы, у амэрыканскім дзяржаўным выдавецтве, выйшла брашура пад загалоўкам „Савецкая імпэрыя — турма нацыяў і расаў. Досьлед народагубства, дыскрымінацыі й злоўжываньня ўладаў". Брашура мае 72 балоны плюс этнаграфічную карту Савецкага Саюзу. Матар'ялы для публікацыі былі дарыхтаваныя вашынгтонгскай кангрэсавай бібліятэкай.

Паколькі ў брашуры даволі шмат гаворыцца пра беларускія праблемы, варта нашым чытачом пазнаёміцца з гэтым цікавым і карысным выданьнем.

Брашура пачынаецца гэткімі словамі:

„Мэта гэтага досьледу — проста даць некаторыя аспэкты савецкае тэорыі што да праблемы нацыянальнасьцяў і прааналізаваць пэўныя дазнаньні некаторых нацыянальных групаў у Савецкім Саюзе — з намерам паказаць тую розьніцу, якая заўсёды існавала паміж тэорыяй і практыкай савецкага падыходу да нацыянальных мяншыняў . . ."

Далей, на тэму этнічнага складу Савецкага Саюзу, у ўступе да брашуры гаворыцца:

„Савецкая Расея, так-жа як і царская Расея — гэта шматнацыянальная дзяржава, у склад якое ўваходзяць, паводля розных вылічэньняў, ад 177 да 200 этнічных групаў. На тэрыторыі 8-х з палавінай міліёнаў квадратных міляў савецкае тэрыторыі ёсьць 125 розных моваў і дыялектаў ды 40 розных веравызнаньняў. З прыблізных 200 міліёнаў жыхарства Савецкага Саюзу Вялікарасейцы налічваюць толькі 50%, а часамі даводзіцца, што навет і гэты лік праўдападобна завысокі".

Пра Беларусь у кангрэсавай брашуры пішацца гэтак:

„Дыскрымінацыйная культурная палітыка Савецкае Расеі ў дачыненьні да Беларусі тарнавалася гэтак-жа войстра, як і да іншых. На пачатку 30-х гадоў павялася атака на ўсе праявы беларускага „буржуазнага нацыяналізму". Бібліятэкі, музэі, чытальні, адукацыйныя цэнтры, дзяржаўныя архівы — усё было выпусташана. У літаратуры, мастацтве, навуцы ліквідавалася ўсё, што падчырквала нацыянальную сьведамасьць беларускага народу. Беларускія газэты „Савецкая Беларусь" і „Беларуская вёска", часапісы „Узвышша", „Беларусь калгасная", „Вясна", „Маладняк" і „Наш край" былі спыненыя, а выдавецкія матар'ялы зьнішчаныя. Вялізарныя памеры наступу супраць беларускае культуры найлепш відаць, калі паглядзець на пералік зьнішчаных рукапісаў або надрукаваных ужо кніжак. Панішчаныя былі:

Усе кніжкі, надрукаваныя ў Заходняй Беларусі; працы Даўнар-Запольскага, Ігнатоўскага й іншых навукоўцаў; паэзія Алеся Гаруна; фальклёрныя зборнікі Сержпутоўскага; слоўнікі Віцебскага, Чэрвенскага, Мазырскага ды іншых дыялектаў; артыкулы, напісаныя з нагоды 400-х годзьдзя беларускага друку; запісы першага беларускага зьезду археолёгаў і палеаграфаў, а таксама гуманістычнага аддзелу Акадэміі Навук; папкі беларускага Архіву, акадэмічныя публікацыі дакумэнтаў; новыя беларускія тэрміналягічныя слоўнікі; некаторыя зборы беларускае бібліяграфіі".

Аднача́сна, кажацца далей у брашуры, была накінутая новая моўная палітыка з мэтай наблізіць беларускую мову да расейскае. Слоўнікі былі перагледжаныя, архаізмы й правінцыялізмы павыкіданыя, словы, узятыя з заходніх моваў, былі замененыя расейскімі. У 1938 г. навучаньне расейскае мовы ў беларускіх школах сталася прымусовым.

Кірункі у беларускай культуры пасьляваенных часоў, выпрацаваныя й накінутыя Масквой, ськіваваныя на падганяньне пад адну мерку зь іншымі народамі. Літаратура пайшла шляхам савецкага шаблёну, устаноўленага ў Маскве. Мова падганяецца пад расейскую мерку. Навукоўцам і пісьменьнікам кажуць ужываць словы з расейскае мовы. Моўны Інстытут АН БССР у 1952 г. абмеркаваў далейшую рэформу беларускага правапісу й граматыкі. Мала таго, у 1950 г. 38% усіх падручнікаў для беларускіх школаў, паводля савецкіх дадзеных, былі прывезены ў Беларусь з Расейскае фэдэратыўнай рэспублікі. Расейцы асабліва сочаць, каб беларускія пісьменьнікі й навуковцы ня кідаліся у „буржуазны нацыяналізм".

Кангрэсавая брашура „Савецкая імпэрыя — турма народаў і расаў" абапірае свае цьверджаньні на працы розных навуковых інстытуцыяў і розных аўтараў. Інфармацыі пра Беларусь чэрпаныя, галоўна з Вакаровае кнігі „Белёраша", што была апублікаваная пры Гарвардзкім у-це, а таксама зь Беларускага Зборніка ды іншых выданьняў мюнхэнскага Інстытуту Вывучэньня СССР (артыкулы Адамовіча, Станкевіча ,Нямігі і інш.).

# ХРОНІКА

## КАНФЭРЭНЦЫЯ СТАРШЫНЯЎ БАЗА

Першага верасьня, на трэйці дзень Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, адбылася ў памешканьні БАЗА нарада старшыняў аддзелаў БАЗА й прадстаўнікоў некаторых беларускіх арганізацыяў. У нарадзе, апрача сяброў галоўнае ўправы БАЗА, на чале із старшынём управы сп. М. Кунцэвічам, бралі ўдзел Часлаў Будзька з Чыкага, др. Я. Сажыч з Дэтройту, В. Шчэцька з Кліўленду, В. Кендыш з Спрынгфільду, Я. Дубяга з Саўт Рывэр-Нью Брансьвіку, Я. Пазьняк зь Нью Ёрку й сп. сп. К. Мярляк, М. Міцкевіч, А. Шукелайць.

На нарадзе абмяркоўвалася рэалізацыя пастановаў апошняга кангрэсу БАЗА; арганізацыя беларускае касы самапомачы, арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Дапамогі, справа выдавецкага фонду газэты „Беларус", справа выданьня памяткавае кнігі з нагоды 10 угодкаў існаваньня БАЗА, справа беларускага ўдзелу ў Амэрыканскім Музэі Эміграцыі, які цяпер арганізуецца, ды справа ўспраўненьня й палепшаньня працы БАЗА наагул.

Пасьля гэтага старшыні паасобных аддзелаў БАЗА здалі лічбу з працы сваіх аддзелаў. Усе падчырквалі ў сваіх справаздачах вялікую патрэбу й вагу цясьнейшае лучнасьці паміж новаю й старою беларускаю эміграцыяй.

Нарада трывала каля шасьцёх гадзінаў, усебакова насьветліўшы беларускае жыцьцё ў ЗША, ягоныя дасягненьні й хібы. Справаздачы й дыскусія выявілі належны й рачовы падыход паасобных аддзелаў і іх старшыняў да нацыянальна-арганізацыйнае справы. На фоне гэтых справаздачаў роля Галоўнае Управы досыць зацэньвалася.

### КАНЦЭРТ - ФЭСТЫВАЛЬ У НЬЮ ЁРКУ

На канчатак Трэйцяе Сустрэчы Беларусаў 1-га верасьня ў Нью Ёрку быў дадзены канцэрт. Выканальнікамі была блізу вылучна нашая моладзь. У канцэрце ўзялі ўдзел: кліўлендзкі ансамбль беларускае песьні й танцу пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага, танцавальны гурток ЗБМА у Нью Ёрку зь кіраўнічкай А. Орса, сп-ня Э. Зубковіч, як акампаніятарка й выканальніца музыкі, салісткі Алла й Галіна Орса зь Нью Ёрку, Іра Каляда з Кліўленду, Вера Лубнік з Дэтройтп, ды дэкляматарка Ліда Рагуля зь Нью Ёрку.

Гожа адцеміць, што на канцэрце былі пачутыя пераважна новыя рэчы: „Малітва" (музыка М. Равенскага) — выканаў Кліўлендзкі хор, „Слуцкія ткачыхі" (муз. Туранкова), „Вальс Шапэна" (словы беларускія) — у выкананьні Іры Каляды, „Лета" (муз. Куліковіча) — Г. Орса, „Васілёк" (муз. Куліковіча) — А. і Г. Орса, „Фантазія на беларускія тэмы" М. Куліковіча — у выкананьні Э. Зубковіч (піяніна).

Успомнены канцэрт нагадваў, дый запраўды быў, фэстываль маладых беларускіх мастакоў аматараў, пераважна мастачак. Шкада, што няпоўны. Міжволі напрошваецца пытаньне зладжаньня на чацьвёртай сустрэчы Беларусаў мастацкага фэстывалю, як асобнае імпрэзы.

---

### БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У НЬЮ ЁРКУ

Як мінулымі гадамі, так і сёлета культурна-асьветны рэфэрат Акругі БАЗА ў Нью Ёрку рупіцца зарганізаваць беларускую школу для дзяцей. Заняткі ў школе пачнуцца 4 кастрычніка й будуць адбывацца што сыботы ад 10-ай гадзіны зрана да 1-ай папаўдні ў памешканьні Беларускага Грамадзкага Цэнтру на Атлянтык Эвэню 401 у Брукліне.

Акруговая Управа БАЗА горача заклікае ўсіх бацькоў пасылаць свае дзеці ў школу, дзе яны будуць вучыцца рэлігіі, беларускае мовы, пяяць песьні ды здабудуць пачатковыя веды зь гісторыі й геаграфіі Беларусі.

**М. Тулейка**
Культ.-асьв. рэфэрэнт

### У БЕЛАРУСКІМ ІНСТЫТУЦЕ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

Пасьля летняга перапынку ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ўзноў пачаліся сыстэматычныя навуковыя зборкі.

20-га верасьня сёлета сп. Часлаў Будзька з Чыкага меў рэфэрат на тэму: „Пытаньне рэвізіянізму ў беларускай гісторыяграфіі".

У сваім рэфэраце прэлегэнт прадставіў беларускі пагляд на паасобныя пэрыяды нашае гісторыі, дагэтуль памылкова падаваныя пад уплывам чужых гістарычных школаў. У першай частцы рэфэрату, прэлегэнт пасьпеў разьгледзець адно два пэрыяды: пэрыяд існаваньня Крывіцкае Дзяржавы й пэрыяд Вялікага Княства Літоўскага.

Пасьля рэфэрату адбылася вельмі цікавая дыскусія, удзел у якой бралі сп. сп. А. Адамовіч, Ф. Кушаль, Я. Станкевіч, Я. Запруднік, Г. Паланевіч, В. Тумаш, К. Мярляк і інш.

---

### БІБЛІЯТЭКА БАЗА

Бібліятэка БАЗА, што месьціцца ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры на Атлянтык Эвэню ў Брукліне, адчыненая што сыботы ад 6-ай да 9-ай гадзіны ўвечары. У гэтым часе можна пазычаць кніжкі або імі карыстацца на месцы.

У бібліятэцы БАЗА шмат цікавай літаратуры ў беларускай ды іншых мовах. Апрача кніжак, часапісаў, газэтаў, бібліятэка мае награныя на кружэлках лекцыі ангельскае мовы ды рад беларускіх народных і патрыятычных песьняў, з чаго таксама можна карыстаць.

Спадарыня Марыя Станкевіч, якая вядзе бібліятэку, служыць кажнаму парадамі аб бібліятэчным матарыяле.

Культурна-асьветны рэфэрат Акругі БАЗА ў Нью Ёрку заклікае ўсіх сяброў БАЗА дапамагчы сваей бібліятэцы: — ахвяроўвайце ёй кніжкі, падтрымвайце матарыяльна, а галоўна, карыстайцеся бібліятэкай, зрабеце яе жывым месцам, узнавеце цікавасьць да чытаньня, а знойдзеце ў гэтым шмат задаваленьня й карысьці.

Зварачайцеся на адрыс:

*401 Atlantic Ave.*
*Brooklyn 17, N. Y.*